№ 2. Год II—1913. Люты (Февраль). 11-ая кніжка.






## ПЕРШЫ БЕЛАРСУКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньняхъ дастала срэбную мэдаль.

---

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

---

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

---

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

---

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Ад рэдакціі.

**„Саха" дастала сярэбраную мэдаль** на выстаўцы насеньня ў Вільні 14—18 лютаго 1913 г. за стацьці ў месячніку аб насеньнях. Гэтую высокую пахвалу—рэдакція „Сахі" усю пэрэкладаець на сваіх супрацоўнікоў-гаспадароў, дзякуючы ім за сумленную, без усякай нагарады, шчырую працу, с каторай творыцца памалу огнішчэ сельска-гасападарскай практыкі і навукі для роднай бацькаушчыны—сельска-гаспадарскай Беларусі.

На выстаўцы—Беняконская і Бэйсагольская пробные сельска-гаспадарскіе станціі выставілі лепшые гатункі збожа для нашаго краю; рэдакція „Сахі" дастала гэтые гатункі ад станцій для дармовай разсылкі сваім падпішчыкам і чытачом. Рэдакція „Сахі" вядзе перэгаворы і з лепшымі гандлямі агародніцкімі і вескавымі населеньнямі, каб разаслаць сваім падпісчыкам па колькі гатункоў і гэтых насеньнеў. Новым сваім падпісчыкам рэдакція „Сахі" разсылае насеньне па чародзе, як паступае падпіска.

## Першая выстаука насеньня 14—18 лютаго у Вільні.

Першая выстаўка ня была такая вялікая, як можна было спадзевацца. Гэта тлумачыцца спячкай земляробаў, дрэнным для гаспадаркі годам: дажджы папсавалі паказны тавар.

Выстаўлены былі насеньня Беняконскай пробнай сельска-гаспадарскай станціі, Віленскаго сельска-гаспадарскаго т-ва і другіх.

**Жыта**—12 гатункоў: найбольшы ураджай зерня дало у 1912 гаду—пэткускае жыто — 157 пуд., за ім ідзець па парадку шампанка, высока-літоўскае, мікуліцкае, святаянскае, мужыцкае—собешынскае, падольскае, загніцкае, маліноўскае, фінляндзкае; тутэйшае селянскае урадзіло 88 пуд. зерня з дзесяціны.

**Аусы**. Найбольш даў у гэтым гаду тутэйшы авёс; з 1 дзес. 126 пуд. зерня; потым па парадку ідуць: рыхлік собешынскі,

діппаўскі, лохово-*жоўты*, залаты дождж (гольдрэген), лейтэвіцкі, сельхов, феодосія, немарчанскі, лігово, струбэ (87 пуд.).

**Бульбы**—станція выставіла 26 гатункаў, найбольш пудоў з дзесяціны дала каралева Аўгуста — 1500 пуд., затым па парадку ідуць: гавронэк, сілезія, від, юбель, гаштамд, сос, цар., карона і т. д., найменш далі вольтман, Орт (892 пуд.).

За выстаўленае насеньне і табліцы, Беняконскае пробнае поле дастало *залатую мэдаль.*

Другое мейсца па вартасьці—займалі розные гатункі аўса і ячменя, выстаўленые Бэйсагольскім пробным полем Ковенскаго сельска-гасп. т-ва. Ім толькі дзеля таго нідалі награды, што яны ня вывесілі табліц на сьцяне, але з другога боку кожны мог браць дарма кніжку станціі, у каторай можна было усё прачытаць, былі у кніжцы табліцы, але экспэртная камісія забылася пра гэту кніжку.

Бэйсагола ляжыць на лепшай зямлі, чым Беняконі; часць поля дрэнавана ганчарнымі трубамі, што ешчэ больш падымаець ураджай.

З **аусоу** ў Бэйсаголе ў 1911 г. найлепш удаўся швэдзкі гатунак с Свалёва—„Пабедзіцель"; ён любіць гліневатую зямлю і землі парахністые — даў 176 пуд. з 1 дзесяціны, за ім ідуць: залаты дождж, рыхлік собешынскі, лігово орыг., феодосія, струбэ, львовяк, лейтэвіцкі і вэбба (138 пуд.).

Першае мейсца з **ячмянёу** па ураджаю заняў ячмень прынцэсік—188 пуд., потым надвіслянскі, ганна, кнэйфель, прымус, богэмія, 4-ох радны мархійскі, прымус орыг. (123 пуды).

**Бульба**. З 18 гатункаў бульбы самай урадлівай была сташыц — 972 пуд., потым клейнот—агнеле, вольтман, сілезія, гавронэк і т. д.

**Залатую мэдаль** дастаў С. Жылінскі, маёнтак Докурнішкі Ашм. п. Вілен. г. Выставіў бульбу вольтман с песчана-глінаватаго поля, пасьля аўса на гнаі—

12 пуд. калійнай солі 30%.
24 пуд. тамасоўкі 15%.

**Жыта** высокалітоўскае пасьля мешанкі (віка з аўсом) на гнаі; з 1 дзес. — 148 пуд., ячмень „ганна мараўская", першае насеньне пасьля прывознаго з 1 дзес.—152 пуд.; пасьля бульбы на гнаі.

Ячмень „ганна мараўскае" 2-х радны, пасьля бульбы на гнаі з 1 дзес.—112 пуд.

Вялікую срэбную мэдаль—прысудзілі С. Гардзеніну (почта Дзятлово, Гродзен. г. м. Нецеч Вілен. г.) за ячмень шасьці радны, цімафейку, канюшыну чырвоную, ячмень — лебядзіная шыя, двухрадны, пшаніцу Ілька, гарох „Конкорузія".

Вялікую срэбную мэдаль І. Бароўскому (м. Каролін Віленск. г.) за сэрадэлю, авёс рыхлік, авёс мархійскі 4-х радны, авёс лігово.

Вялікую срэбную мэдаль—Вэнцлавовічу (почта Купішкі Ковенск. г. м. Норуны) за жыта ракішскае (з м. Ракішак Ковенск. г. гр. Пржездзецкаго, гдзе яго сеець 25 гадоў адзін

арэндар), з 1 дзесяціны 152 п., ні баіцца яно зімы і вясны, вялікая і моцная салома, мала вылегаець, мала высыпаецца, зярнё цяжкое; за канюшыну тутэйшую аднапакосную, цімафейку, авёс лігово, бульбу Магнолія—круглую.

Вялікую срэбную мэдаль прысудзілі Віленскаму помолагічнаму т-ву за насеньня кветак, варыва і т. д.

Срэбные мэдалі: гр. Браніцкаму (м. Рось Грод. г.), гр. Косакоўскаму (почта Жэймы Ков. г.) за ячмень Ганна, авёс Лігово), Мэйштовічу, Родзевічу, Віленскаму садаводу—Плебанчыку, Кеппэ, Дулевічу, Камару, Купфу, Моркеру, Ялавецкаму.

Бронзавую мэдаль:—Корэйве, Белаву, Грыневічу і воснянскаму сельска-гаспадарскаму хаўрусу.

Прысудзілі сярэбрэную мэдаль і А. Уласаву за с.-г. месячнік „Саха“.

Хто хацеў, мог многа чаго даведацца ад гаспадароў аб розных гатунках збожа. Шмат людзей закупілі на выстаўленых пробах зерня на насеньня. Маем надзею, што праз год другая выстаўка насеньня удасца лепш і зробіцца патрэбнай справай для гаспадарства.

**А. У.**

---

# Аб гатунках збожа на выстауцэ.

З гутаркамі маладых аграномоў і гаспадароў—практыкоў аб гатунках збожа мы хочэм познаёміць чытачоў „Сахі“.

## ЖЫТА.

1) *Пэткускае*, высока-культурнае, значыць вымагае добрай зямлі і добра выробленай; — баіцца кепскай вясны і зімы, але урадлівае, не вылегаець, колас чатырохкантовы-шчыльны.

2) *Шампанка*, культурнае, добрая салома, але вылегаець, колас слабейшы.

3) *В.—літоўскае*, ні баіцца зімы, падходзіць для нашаго клімату, любіць суглінак з вапнай,

4) *Святаянскае*, с фінляндзкіх „кустовак“ (расьцець кусьцікам) з восені можна спашываць, альбо касіць вясной; яно адрастаець і даець зярнё; можна сеяць з зімовай касматай вікай на раннюю веснавую пашу. Сеецца яно у канцы чэрвеня.

5) *Собешынскае-селянскае*. Гэты гатунак узяты с польскіх селянскіх гаспадарак, у каторых ён мала баяўся кепскай пагоды. Падбіраючы па троху лепшые зёрны,—(сэлекція) дабіліся таго, што гэтае жыта на выгляд зьмянілася на лепшае, але з другога боку—падэлікатнела на клімат. Усётакі, з невялікай рызыкай яго можна сеяць у нас і мець ураджаі. Як кажё аграном Козлінскі, гэтае жыта не баіцца заліву вады і макраты, рэдка вылегаець, расьцець на ўсіх землях.

6) *Загніцкае.* У нашых варунках даецъ ураджай, але добра ня выпрабаванае.

7) *Падольскае*—добра ня выпрабавана.

8) *Маліноускае.* з м. Маліноўшчыны Свентаржэцкаго каля м. Гарадка Вілен. г. Вілейск. п. сеецца там здаўна, прабуецца, як матэрьял, каб вырабіць з яго ураджайны гатунак.

9) *Фінляндзкае.* сярэдняе, зімы не баіцца, пад лядком выпарываецца, мала выпрабаванае.

10) *Тутэйтае, селянскае.* У Бэйсаголе заняло другое мейсцэ па ураджаю зерня (156 пуд.) пасля Пэткускаго, а па ураджаю саломы—першае мейсцэ (320 пуд.) Гэты гатунак заўсягды родзіць, не баіцца клімату, але маець ценькую салому, колас нярОўны, пастрэляны, зярнё дробнае, шылаватае, лёгка высыпаючэеся з матачнікоў; гэта яго слабая старана. Крыжуючы яго с пэткускім жытам, можна полепшыць, але ад гэтаго яно можэ падэлікатнець.

11) *Саксонскае,* Добрае жыто, але сыпецца.

12) *Мікуліцкае*—ранны гатунак, пасьпеваець на тыдзень раней другіх, салома доўгая.

## АУСЫ.

1) Швэдзкі „*Пабедзіцель*". (с. Свалёва). Новы гатунак, каторы можэ заняць першае мейсца у нас па урадлівасьці. Зярнё поўнае, белае (падобны на ліговo), салома не высокая, але спрунжыстая.

2) Швэдзкі „*Гольдрэген*" меней баіцца усяго, зярнё жоўтае, ні надта пекнае, але мае тонкую луску.

3) *Рыхлік* Собешынскі, дае ніщто ураджаі ў нашым краю.

4) Швэдзкі „*Лігово*", добры гатунак, каторы ўжо шырока пачаў разводзіцца па краю. Можна сеяць і на лёгкіх грунтах.

5) *Дацкі,* на землях цяжкіх, позны, на гною ня сеецца, бо вылегаець, мала сыпецца.

6) Швэдзкі, *чорны* „*Велікан*". Зярнё чорнае і цяжкое, добрына корм скаціне; сеецца на ўсіх землях, не вылегаець, даспеваець позна. У м. Рось Гродзенск. г. сеецца 4-ы год і даець уроджаі большые, як іншые аўсы.

7) *Дюпавскі,* Бэйсагольская станція добра аб ім адзываецца. Мала выпрактыкаваны.

8) *Теодозія,* сеецца ешчэ мала гдзе.

## ЯЧМЯНІ.

1) *Прынцэсік.* У нашым краю ячмяні удаюцца ня згорш. Адным з лепшых, як казалі на выстаўцэ,—Прынцэсік; зярнё добрае мучністае.

2. *Надвіслянскі,* с польскіх гатункоў, урадлівы, але сярэдне мучністы.

3) *Ганна,* шмат гдзе ужо сеецца па краю і добра родзіць.

4) *Богемія,* гатунак блізкі к ганне, але родзіць сярэдне і зярнё маламучністае.

5) *Прымус*, швэдзкі, зёрны самые мучністые за ўсе гатункі, але ешчэ мала выпрабаваны ў нашым краю.

6) *Мархійскі*, чатырохрадны, як усе чатырохрадные ячмяні скора растуць і пасьпеваюць і на усякім грунце. Зёрны невялікіе, але добрые для бравароў. Салома доўгая, колас вялікі. У нас сеецца ужо.

**А. У.**

---

# Калі і як сеяць.

Добрая вырабка зямлі, умелая сеўба, вось дзьве работы, ад каторых залежыць ураджай.

Аднак у нас—ці мала такіх гаспадароў, каторые вырабляюць зямлю абы як, каторые сеюць абы як і абы якім насеньнем.

Насеньне на пасеў павінна быць добра прарастаючае, добра перачышчэнае, поўнае і цяжкое. Дзяды і прадзеды нашы ведалі, што якім зернем пасееш, такое і вымалачываць будзеш, і дзеля гэтаго, ў доўгіе зімовые вечары, выбіралі зерняты на насеньне рукамі.

Цяпер, гэту мазольную ручную работу, заступаюць розные, хітра прыдуманые, машыны да ачысткі зерня. Але машын гэтых у нашай старонцы мала: знойдзеш толькі дзе небудзь у вялікім дварэ, па вёсках, хутарох і засьценках. Добра і гэта, але праз арфу і праз фухталь трэба зярнё па некалькі разоў прапушчаць, каб яно такі папраўдзі было адборнае, найлепшае.

І навука, і практыка паказалі, што буйное зярнё родзіць гэтак сама,—буйные зерняты.

Пара пасеву ў гаспадарцы важнейшая ад пары жніва. Пасеяць трэба улучыць у такі час, каб ні зарана і ні запозна. Час пасеву залежыць ад таго, ці весна рана, ці позна пачалася, дзеля гэтаго, безмала кожная ваколіца мае іншы час пасеву. Ня трэба зьвертаць увагі на варажбу пагоды па календару, ні на маладзік, ані на поўню, бо толькі добра выробленая і угноеная земля дае ураджай, а не варожкі. Земля ў часе сеўбы павінна быць сыраватая, але ня мокрая, добра агрэтая сонцам і добра успаханая, каб да яе мело доступ сонцэ і паветрэ. Пакуль земля не абагрэецца, лішніца вады не ўбярецца у зямлю, ды ральля не саўсім пухляная, то пасеў можэ нізашто пайсці. Раней можна сеяць на землях лягчэйшых—пешчаных, каторые скарэй абсыхаюць і агрэваюцца. На землях цяжкіх, глінястых, трэба сеяць пазьней, бо у гэткіх землях доўга трымаецца сьцюжа і зарана пасеянае зярнё ў такую зямлю можэ збуцьвець.

Найраней можна сеяць гарох, пасьля авёс, а ужо ячмень трэба сеяць пазьней.

Сколькі трэба высеваць? Гэта залежыць ад варункоў:— як ад дабраты зерня, гэтак сама і ад гатунку зямлі, спосабу

пасеву і др. Чым зярнё лепшае, чым зямля багацейшая, тым менш трэба высеваць; на горшай зямлі трэба сеяць гусьцей, бо зярнё там слабей кусьціцца.

Пры раннай сяўбе трэба радзей сеяць, пры познай—гусьцей. Лішне густы пасеў—ня добра, бо тады дабро само сябе глушыць, вылегае, дае дробнае зярнё; лішне рэдкі пасеў, гэтак сама ня добра.

Некаторые гаспадары стаяць за рэдкую сяўбу; яны кажуць, што тады збожэ куды лепей кусьціцца. Што лепей кусьціцца — гэта праўда, але кусьціцца яно са шкодай усей расьліны і са шкодай для умалоту. Рэдка пасеянае збожэ дасьпевае пазьней і не ў адзін час, бо з аднаго карэня вырастае многа каласоў; але, дзеля таго, што бакавые калівы пазьнейшые, то яны не дарастаюць да стярэйшых каліў і атрымываецца зярнё не аднастайная, бо с тых бакавых каліў зярнё бывае дробнае, лёгкае. Дзеля гэтаго трэба сеяць сярэдне: ня лішне густа і ня рэдка, мяркуючыся на якой зямлі і якім насеньнем сеем.

Ярына вымагае зямлі пухлянай і чыстай ад зела, а ў часе усходоў вымагае, каб было і шмат вільгаці ў зямлі. Дзеля гэтаго, на ярыну поле павінна быць заараная з восені, а вясной, каб не перэсушаць лішне зямлі, пушчаць толькі бароны, культыватары, спрунжыноўкі і інш. Значэ, трэба старацца, каб вясной не араць пад ярыну зямлі.

Як толькі на вясну абсохне земля, пушчаем бароны, ці спрунжыноўкі, пасьля сеем і зярнё прыкрываем цяжэйшымі, або лягчэйшымі баронамі, залежна ад зямлі.

Некаторые гаспадары, пасеяўшы зярнё, вальцуюць зямлю, каб усходы былі раўнейшые. Вальцаваньне рэч не благая, толькі, пасьля вальца трэба пусьціць лёгкую барану, каб зямлю зьверху. крыху узрыхліць, бо гэта бароніць зямлю ад высыханьня

На цяжэйшых землях—лепей за усё вясной па восеннай ральлі пусьціць амэрыканскую спрунжыновую барану, сеяць і прыкрыць насеньне лёгкай бараной. Толькі на цяжкіх, зліваючыхся глінах, трэба і вясной плытка узараць зямлю плугам.

**Лемеш.**

---

# Авёс.

Авёс найменш выбрэдны на зямлю. Удасца на кожнай зямлі, пачаўшы ад цяжкой гліны, да лёгкаго пяску. Само сабой, што чым лепшая земля, тым большы можэ ураджай даць авёс. Маючы даўгіе, сільные карені, авёс часта удасца нават на такіх землях, дзе іншая збажына саўсім ня хочэ расьці.

З гэтай прычыны, шмат гаспадароў пад авёс назначае найслабейшые кавалкі зямлі. А напрасна—бо авёс за добрую

зямлю і унавожэньне яе плоціць так сама, а часам і лепей за іншую збажыну. Дзеля гэтаго гаспадар павінен дбаць аб аўсе і старанна каля яго хадзіць.

Як ужо вышэй было сказана, авёс не выбрэдны на замлю, абы тольк ў зямлі была пажыва і абы—было сколькі яму патрэбна вільгаці—будзе расьці добра. Авёс, з усіх збажын вымагае найболей вільгаці; гэта выясняе, чаму авёс нэйлепей удаецца на крэпкіх, глінястых землях. На лягчэйшых і сухіх землях ураджай аўса залежыць ад вільгаці—у вільготны год ён на гэтакіх землях удасца лепей, у сухі—горэй. Авёс удасца пасьля усякай расьліны, нават і пасьля аўса, а значэ—самаго сябе; удаецца на навінах і на старых землях. Мае крэпкую салому, але ні так буйна кусьціцца, як ячмень, дык не баіцца крэпкаго гнаеньня і не так лёгка вылегае, як ячмень. Сеяць авёс трэба раннай вясной, бо позны .рэдка так удаецца, як ранны. Ранейшы авёс мае зазвычай буйнейше і паўнейшае зярнё, позні-бывае легкаго зерня.

Каб атрымаць добры ураджай аўса, трэба так гнаіць зямлю. каб ён меў у волю пажывы. Хоць авёс і мае вялікую здольнасьць дабываць сам сабе пажыву з зямлі, распусчаючы карэньчыкамі каменчыкі, але усё-ж такі няможэ дабыць сабе з зямлі таго, чаго у ей німа, дзеля гэтаго на зямлі слаба угнаенай можэ і неудацца.

Да найлепшых гатункоў аўсоу залічаюць цяпер „Рыхліх собешынскі“ і „Діппаўскі“,—другіе усе аўсы, або мала выпрабаваны, або, як „Лігово“—сходзяць на ураджайнасьці на другое мейсцэ.

С штучных навозоў—авёс найбольш любіць каініт, томасшляк і салітру, асобліва любіць, калі на яго падсеяць салітру два разы: у красавіку і у маі па 40—60 фунтоў на дзесяціну.

Г.

---

# Якім зярнём сеяць.

Гаспадары павінны загадзя паруліцца, каб насеньне на пасеў было гатова перэд вясной. Калі ў гаспадара свайго насеньня на пасеў хопіць і яно добрае, то трэба не шкадаваць арфы і фухталя, каб насеньне добра перачысьціць, каб у ім не было зела і дробных, слабых зернятоў. Хто хочэ мець добры ураджай у восень, той павінен сеяць добрым зярном вясной. Навука і практыка паказала, што кожнае зярнё на пасеў павінна быць: 1) буйное, 2) аднастайнае і 3) саўсім чыстае і здаровае.

Калі-ж у гаспадара свайго добраго насеньня німа, або німа чым яго, як трэба, прачысьціць, то такі гаспадар далёка лепей зробіць, калі прыкупіць сабе добрага зерня на насеньне, ні глядзя на тое, што прыйдзецца, вясной купляючы, крыху перэплаціць.

Хто хочэ перамяніць насеньне сваё на новы які гатунак, то ніхай купляе у сваіх суседзёў, у дварох, ці засьценках, у мейсцах вядомых з добрых ураджаёў і ў такіх людзей, дзе не ашукаюць.

Гаспадар раз у год толькі сее і раз будзе зьбіраць ураджай, дык кожная абмылка у пасеві прыносіць дужа вялікіе страты гаспадару.

Добры гаспадар ні пашле сваей каровы да благога, дохлага бугая, ведаючы, што тады і прыплод будзе с каровы нікуды ні варты; гэтак сама і з насеньнем, хто пасее слабым насеньнем—ні павінен чэкаць добраго ураджаю.

Здаровае і добрае зярнё, пасеянае у добра выробленую і не худую зямлю, можэ даць і добры ураджай.

Памятайце-ж, гаспадары, каб вашэ зярнё на пасеў было буйнае, аднастайнае, саўсім чыстае ад зела і здаровае.

**Лішні.**

---

# Нашые выганы.

Мала каторая с паміж нашых вёсак не мае сваіх выганоў. Займаюць яны па моргу, а то і менш, але бываюць мейсцамі пад німі і ладные кавалкі. Усе гэтые выганы у сваім часе мелі вялікае значэньне для селян: былі не малай падмогай у пашы для жывёлы, бо на выгонах гэтых даўней расла добрая трава. Але глянце цяпер на свае выганы: дзе па німі быў цьвердзейшы грунт—там цяпер бубен-бубнам; дзе-ж займалі яны ніжэйшые, слабейшые землі—там цяпер купіна на купіне. А нават калі і трапляецца дзе якая травіца, то і тая не ядкая.

Знаная рэч, што ані скаціна, ані коні ня любяць тэй травы, каторая вырасла на іх уласным сьвежым гною. А дзе-ж ужо больш вытнаеные кавалкі зямлі, калі не нашые выганы? З давен-даўна былі яны прыпірышчам для уселякай жывёлы нашай вёскі: тут і скаціна, і авечкі, і коні, і сьвіньні і рознае— дзе якое ёсць птаства, дык ня дзіва што выганы гэтые праз даўжэйшы час сталіся зусім мала здатнымі і карыстнымі для пашы.

Праўду кажучы, і самі гаспадары нашы добра ведаюць і разумеюць, што паша на выганах не дасць ані сілы каню, ані сытасьці карове, ці сьвінні, а гоняць усё гэта туды—ось так— абы пазбыцца жывёлы с хлева, і гэтым самым робяць сабе як найвялікшую шкоду, бо і жывёла галодная, а што ешчэ горш— пазбываюца найдаражэйшай і найпатрабнейшай рэчы ў гаспадарцы—гною.

Прычына, што жывёла наша без ніякай для сябе карысьці таўчэцца на выганах, разумеецца, ёсць і іншая: у хлеве мокра, а саломы падаслаць — німа. Але гэта не атказ. За граніцай, напрыклад, дзе шмат ёсць такіх гаспадароў, каторые маюць зямлі менш, чым іншы наш надзел, а і сама земля была ня

толькі ня лепшай, а то і шмат дзе горшай ад нашай, — наладзілі аднак ужо так сваю гаспадарку, што жывёлу сваю трымаюць праз усё лета у хлеве, і ня толькі на ніякіе выганы, а нават у поле — на пашу не ганяюць, каб як мага найбольш сабраць гною. Ды і пад выганы зямлі там марнаваць не стануць, бо нават папарные свае палеткі — усе засеваюць кармовымі травамі, і гэткі парадак у гаспадарцы дае ім змогу трымаць, як ужо было сказана, жывёлу сваю у хлеве і карміць яе там шмат сытней, а, значыцца, і карысней для сябе. І калі загранічные селяне даюць сабе рады с подсьцілам, а трэба ешчэ ведаць, што там ніколі скаціна ня бывае такая каравая, як нашая, то нам і гаварыць німа чаго, што можэм даць сабе рады, абы толькі была рупнасць. Ці-ж мала ешчэ ў нас ёсць купін, торфу, моху, галін і т. п.? Трэба толькі прылажыць на гэта крыху больш працы, а тады скаціна у хлевах нашых гінуць і тапіцца ў балоце ня будзе, і непатрэба будзе выганяць яе бадзяцца па выганах.

А што-ж рабіць з выганамі? Там — дзе вёскі маняцца разабрацца на хутары, дык выгоны, разумеецца, пойдуць у надзіелы, а дзе нельга гэтаго зрабіць і селяне думаюць трымацца шнуровай гаспадаркі, — там выганы трэба выкарыстаць іначэй.

Бываюць па некаторых нашых вёсках перагоны; нарэзаны яны з дворнай зямлі, каб было як дагнацца са скацінай да вады, ці дзе на дальшую пашу, але с часам гэтые дарогі сталіся непатрэбнымі дзеля перагону скаціны, дык пастанавілі выкарыстаць іх іначэй Дзе прыдатны яны на сенажаць — то запусьцілі на траву, а дзе — на поле — то загорываюць, і карыстаюць з гэтых невялічкіх кавалкаў зямлі па чародзе кожны год іншы гасподар.

Зрабіць гэтак з выганамі — нельга. Як ведама, земля пад выганамі вельмі гнойная, дык першые годы можна спадзевацца вялікіх ураджаеў, але калі зямлю не падпраўляць, яна у скорасьці выпалашчыцца і дальш ураджаі ня толькі зменшацца, але і зусім могуць прападаць, дык значыцца чарадная гаспадарка давала-б ня кожнаму чароднаму гаспадару аднастайны даход. Хоць гэта самае бывае і на перагонах, але там — на невялікіх шматочках зямлі — такога значэньня не мае, дык і крыўды такой ня будзе суседу, як на вялікшых кавалках, якіе займаюць выганы.

Можна было-б нашые выганы за агульнай, разумеецца, згодай, парэзаўшы на кавалкі, падзяліць паміж гаспадарамі, па колькі на якую хату прыходзіцца, але вядомая рэч, што гэта наша дзяліцьба не вядзе да дабра. Парэзаная на вузкіе шнуркі земля трудна даецца акуратна вырабіць, ды і так шмат мае нявыгод, якіе кожны селянін, што сядзіць на шнуровай вясковай гаспадарцы, добра знае.

Найлепш, бо найбольшую карысьць можна было-б мець, калі-б на гэтых выганах, не раздзіраючы іх на часткі, пазаводзіць грамадзянскіе сады. Не такая гэта ужо трудная і каштоўная справа, якой на першы погляд можэ паказацца.

Праўда, мала ўжо цяпер такіх гаспадароў, каторые ня мелі-б у сябе садку, але што-ж, калі мейсца ў кожнаго скупа, дык мала таго, што ён пасаджэны дрэнна, бо густа, а і так мала дзе ёсць больш, чым пяць—дзесяць дрэвак. Добра разумеецца, мець хоць і такі садок, але даходу з яго спадзевацца трудна. Бо калі-б нават ён добра ішоў і радзіў, то і тады ані купца, ані арэндара на яго не знайсьці, ды і самаму гаспадару вартаваць такі малы садок шкада будзе часу; вось і канчаецца найчасьцей тым, што пакуль дасьпеюць фрукты, дзеці і падросткі паабвіваюць іх, калечучы дрэвы, палкамі і каменьнямі.

Зусім іншая справа была-б, калі-б супольнымі сіламі гаспадары вёскі засадзілі сад у адным мейсцы — на супольным выгане. Там ужо, заняўшы пад сад які морг, другі, а то і болей, будзе неколькі сотак фруктовых дрэў, дык будзе ўжо чаго вартаваць, і будзе што прадаваць.

Цікаўна, разумеецца, хоць меней-болей падлічыць, колькі кошту трэба было-б выдажыць, каб гэткі сад завесьці.

Калі-б лічыць, што кожнаму гаспадару прыйшлося-б пасадзіць 10 дрэвак, а прышчэп дрэўца каштаваць будзе капеек 50, значыцца трэба на гэта афяраваць па рублёў пяць с хаты, ці з надзелу; гэта ўжо залежыло-б ад таго, як бы згаварыліся паміж сабой селяне, — на які кавалак зямлі для сябе маюць яны правы заняць на сваім выгане.

Усе іншые работы,—як капаньне ямак, саджэньне само, даглёд і т. д,—разумеецца, зрабілі-б свае рукі.

Разгледзім-жэ цяпер болей дэтальна—якая карысьць з гэтаго магла-б быць.

Лічучы дзесяць раджайных дрэў у сіле свайго веку,—калі дадуць по 10 пудоў кожнае, а трэба ведаць, што лік гэты зусім невялікі, бо дрэва дае па 15 і 20 пудоў, але і так, значыцца, мы можэм мець сто пудоў фруктаў. Калі-ж гаспадары садоў будуць зважаць, каб завесьці ў сябе фрукты добрые і гандлёўные, то можна спадзэвацца за пуд гэткіх фруктаў узяць па рубельчыку, а—значыцца, за 10 сваіх дрэвак — мець нейкую сотку рублёў.

Сьмела можна спадзевацца пры добрым даглёдзе і на лепшы ураджай, а значыцца і на лепшы даход, але трэба лічыць заўсёды горэй, а хай сабе выйдзе лепей.

У садох — бываюць годы не ураджайные, бываюць розные неспадзеўкі, страты, наклады, дык аткініем палавіну спадзеванаго даходу: пярэйдзем с соткі на 50, а то і з гэтаго ешчэ аткінем палавіну: хай сабе будзе нам даходу 25 рублёў, то і так абгонім мы гэтым усе свае зямельные падаткі, а гэта ўжо вялікая ў такай маленькай гаспадарцы, як наша селянская— падмога.

Але ешчэ гэта не канец. Земля паміж фруктовых дрэваў (толькі трэба іх канешна садзіць рэдка, аршын на 12 адно ад другога), застаецца слабодная. Што-ж рабіць з ёй? А на гэта трэба прыдумаць рады, дзе што выгадней.

Можна запусьціць пад той жэ выган, абгарадзіўшы моцнымі каламі самые фруктовые дрэўцы, каб жывёла не пакалечыла дрэвак.

Але бадай, ці ня лепш ешчэ было-б, каб гаспадыні вясковые перэбраліся с сваімі агародамі—варывам на гэткіе супольные выганы. Праўда, было-б там (выбачайце, гаспадынькі!) крыху сваркі, але дзе заведзены былі-б садкі, там і агародніна вельмі прыдалася-б і карысць была-б двойчая, а нават тройчая, слабоднымі былі-б праз лад ужо перагноеные кавалкі зямлі, каторые цяпер ідуць пад варыво — можна было-б заняць пад збожэ, і за ураджай яго — сьмела можна паручыцца. На сьвежай-жэ і добра угноенай зямлі — як нашые выганы—так сама спадзевацца можэм добраго варыва. На гэткіх навінах, асабліва удаюцца агуркі і капуста, а гэта-ж самае важнейшае прыпірышчэ ў нашай беднай ядзе.

Карысьць была-б не малая і для дрэвак фруктовых. Капаючыся каля ніх, і час-ад-часу падгноіваючы, як гэтаго вымагаюць агароды пад варыва, давалі-б сілу і для самых дрэвак, а яны патрапілі-б за гэта добра падзякаваць сваім ураджаем.

**К—а.**

---

# Як каваць коней.

Па вёсках і малых селянскіх гаспадарках каваць коней прыходзіцца ці самому гаспадару, ці весьці іх да кавалёў, каторые часта нічога ні разумеюць у гэтым дзеле і дзеля гэтаго коні дужа часта хваарэюць на ногі. Само сабой, што на цвёрдым грунце, а зімой і на лёдзе, конь ня можэ працаваць без падкоў і падкаваць яго трэба, але і каваць трэба умеючы. Я і хачу пагаварыць цяпер аб тым, як належыць каваць коней, каб зрабіць іх годнымі да працы на цвёрдым грунце (па бруку, шоссэ) і каб не папсаваць капыта.

Гаспадар, каторы ці сам куе каня, ці вядзе яго да каваля, павінен найперш зьвярнуць увагу на падковы. Калі падкова будзе добра выкавана, то яна дасць добрую апору капыту, а калі падкова блага зроблена, то яна толькі калечыць нагу. Усякая падкова павінна быць гладка выкавана і так, каб па вялічыне і форме была такая, як край падошвы капыта; падкова павінна быць з бухтаўкай і павінна закрываць край падошвы капыта ад аднэй пяты да другой. Шырокімі і цяжкімі падковамі каваць ня можна, бо паміж капытом і падковы будзе набівацца гразь і капыт будзе гніць, а калі падкаваць каня цяжкой падковай, то ён скора зморыцца і ня будзе магчы працаваць. Каб падкова была ні за цяжкая, то трэба каб яна важыла ня больш як 1 ці паўтара фунта. Ня можна каваць такімі падковамі, каторые многа выдаюцца ў перад, у зад, ці

ў бакі, бо конь будзе наступаць, будзе валяцца і можэ пакалечыць сабе ногі; ня можна каваць і вузкімі падковамі, меншымі за капыт, бо і ад гэтаго коні часта хварэюць.

Перад тым, як прыбіваць падкову, трэба добра аглядзець капыт і разчысьціць яго. Калі толькі на падошве капыта ёсць шчэлкі і ў іх набілася гразь і калі барозны каля стрэлкі глыбокіе, то трэба увесь гэты лішні рог абрэзаць, выраўняць падошву і край капыта, але пры гэтым трэба старацца, каб з усіх старон рогу была зрэзана па роўну. Пасьля такой расчысткі падкова павінна прыставаць да капыта так, каб не было ніякай шчэлкі паміж падковай і краем капыта, бо туды будзе набірацца гразь, каменчыкі і конь будзе кульгаць. Цьвякі трэба уганяць у белую паласу, што відаць на расчышчэным капыце (падошві). Цьвек павінен быць так загнаны, каб ні пакалечыць косьці, бо там будзе зьбірацца матэрыя і конь пачне кульгаць. Цьвякоў ня можна заганяць у пяты і блізка пят.

**К. Сініцкі.**

---

# Работы у садзе вясной.

Хто мае сад, той павінен ужо с самай вясны падумаць аб тым, каб дрэвы ачысьціць і накарміць. Калі каня не накарміць, то ён і рабіць ня будзе; гэтак сама і з дрэвамі: калі іх не накормім, то яны—або саўсім радзіць ня будуць, або фрукты будуць дробные і ў плямах.

На старых дрэвах трэба перэглядаць кароны, ці не загустые, дзеля таго, што фрукты тады толькі добрые будуць, калі сонцэ ўсе галіны будзе роўна асьветляць. Дзеля гэтай работы бярэм вострую ручную пілку і там, дзе за густа, вырэзаем перш тые галіны, каторые заходзяць одна на другую і труцца. Адпіловываем асьцярожна каля самаго пня, перш з верху да канца. Лішне старые галіны, на каторых пасынкі маладые растуць, а яны самі ужо маленечкіе фрукты даюць, зрэзываем па тое мейсца, дзе пасынкі растуць, гэта будзе абмаладжываньне дрэў, значыць, са старых мы зробім ізноў маладые. Рану трэба выглядзіць нажом і замазаць, або замалеваць густой пакостнай фарбай, можна і смалой. Калі на адным дрэві трэба надта многа вырэзываць, то перш прыводзім у царада адну палову дрэва, а другую—на другі год, каб дрэва лішне не аслабіць. Абрэзываць дрэвы можна толькі пакуль пучкі ешчэ не распусьціліся.

Абрэзаўшы, што было лішняго з галін, трэба дубовым ножыкам ачысьціць усе галінкі з моху да чыста; мох выцягівае сокі з дрэў, і менш сокоў прыходзіцца на долю дрэва і яно горш расьце. Жалезнаю скрабачкаю, падобнаю да матыкі, што да капаньня бульбы, трэба на пні аскрэбаць усю старую кару, але толькі зьверху, не да жывога. Пад карою уселякіе жукі

і матылёчкі складаюць яечкі, с каторых вылупліваюцца пасьля чэрві і паедаюць ліст на дрэві. С карою мы разам выкідаем і яечкі; найбольш іх у тым мейсцы, гдзе сук ад пня адходзіць і там трэба найчысьцей аскрэбаць кару.

Калі скончылі з гэтаю работай, бярэм вапну на палову з глінай, размешываем з вадою, прыбавіўшы восьмую часць попёлу і чацьвёртую часць юшкі з гною. Мазком з рагожы мажэм дрэва там, дзе мы яго скрэбалі. Гэтым мы забіваем усе яечкі, якіе ешчэ асталіся. Тады дрэвы выглядаюць, як, прыбраные да шлюбу, маладые,

Часта бывае, што дрэва родзіць добрые вялікіе яблыкі і грушы, а пасьля на іх паяўляюцца чорные плямы, фрукты трэскаюцца і гніюць. Каб гэтаго ня было, трэба узяць $1^1/_4$ фунта купэрвасу, распусьціць яго у вядрэ вады, найлепей завязаўшы у рызіначку і завесіўшы у вадзе, побач у другім вядрэ распусчаюць фунт вапны; пасьля усё разам мешаюць і прыбаўляюць ешчэ вядры з два вады. Добра прыбавіць ешчэ крыху цукру, бо тады гэта мешаніна можэ дзён колькі стаяць і не псуецца. Пасьля, гэтай мешанінай трэба апырскаць усе дрэвы. Дзеля гэтаго трэба мець асобную прыладу для апырсківаньня. Найтаней абходзіцца гумілястыкавая кішка, адзін канец каторай устаўляем у пасудзіну з вадой, а праз другі—апырсківаем усё дрэва, трэба толькі каб пасудзіна з вадой стаяла вышэй, так—у рост чэлавека. Апырсківаць трэба першы раз, як пучкі ешчэ не распусьціліся; другі раз—як дрэва перацьвіло і ўжо завязаліся маленькіе яблачкі, ці грушкі, і трэцьці раз—у пачатку ліпня.

Сьліўкі ня любяць, каб іх абрэзаць, таму на сьлівах вырэзываем тыкеля сухіе сукі, аскрэбаць і бяліць трэба так сама, як і грушы.

Калі ўжо ачышчэны дрэвы, трэба ім даць есьці. Земля пад дрэвамі павінна быць узарана, ці перэкапана і вясной даем троху гною. Найлепшы гной—кампост, значыць гной с суметніка. Пасыпаць гной трэба на зямлі у тым мейсцы, дзе галіны канчаюцца, і перэкапаць з зямлёй. Калі німа гною, то трэба купіць штучнаго навозу. На 1 дрэва 20 гадовае сыпецца $^1/_2$ фунта салітры хілійскай. Другая, французская рэцэпта радзіць: $1^1/_4$ калійнай солі (тамасоўкі) $1^1/_4$ ф. каініту і $^5/_8$ ф. салітры; усё разсыпаецца каля дрэва і перэкапываецца.

Можна паліваць дрэва юшкай з гною. У тым мейсцы, гдзе канчаецца карона, робяць дзіры і туды наліваюць гнаёўкі. На добрай зямлі можна адзін раз на два гады даваць пад дрэвы гной, а на благой—кожны год.

Як усё гэта зробім акуратна, дрэвы будуць добра расьці і шмат радзіць.

**Алёна.**

# Пробные станцiи.

Апрыч пробнай балотнай станцii ў Мiнску, каторая выпрацовывае спосабы, як перэрабляць мокрые балоты на багатые сенажацi, ёсць ешчэ 2 пробные палевые станцii. Адна—беняконская (ст. Беняконы Палес. ж. д.), а другая—бэйсагольская (ст. Бэйсагола Л. Р. ж. д). Iх мэта, гэта выпрабаваць i знайсьцi лепшые гатункi збожа, i др. для нашаго краю. Пiшучы аб гатунках збожа, мы карысталi з iх прац i гутарак з асыстэнтам бэйс. станцii—Косцюкам, i асыстэнтам бенякон. ст.—Русецкiм; апрыч ешчэ гутарак з другiмi аграномамi i гаспадарамi. Кожны гаспадар можэ зьвярнуцца з запытаньем аб якiм небуць гатунку проста на гэтые станцii. Дырэктары станцiй адкажуць усякаму. Добра пад'ехаць i паглядзець працы на станцii. Станцii працуюць не для сябе, але для карысьцi гаспадаркi краю. Рэдакцiя „Сахi“ просiць усiх сваiх падпiсчыкоў i чытачоў, калi яны маюць якое добрае насеньне, вартае таго, каб iм заняцца, нiхай яны пашлюць па 10 фунтаў у абедзьве станцii на пробу.

---

# Пыпiць у курэй.

У нас усе па вёсках верaць, што у курэй на языку нарастае „пыпiць“, каторы трэба здзiраць, бо iначэй курыца здохне.

„Пыпiць“—гэта ня што iншае, як азнака таго, што курыца захварэла на звычайны катар, якi i у людзей бывае. С прычыны катару, курыца ня можэ дыхаць носам, бо нос запухае, а дыхае праз дзюбу. Дзеля гэтага скурка на язычку высыхае, цьвярдзее i аддзеляецца ад мясiстай часьцi языка, перэшкаджаючы есьцi курыцы. Хто здзiрае гэту засохшую скурку з язычка, той калечыць язык i часта-густа курыца, цi iншы якi птах, падыхае, часткай ад таго, што сплыве крывёй, а часткай з голаду, бо пакалечыным языком ня можэ хапаць яды.

Калi у каго захварэюць куры на „пыпiць“ на языку, то, ня зьдзекуючыся над хворай жывiной, нiхай перэнясе iх у цяплейшы куток, дае есьцi што небудзь мягкое: размочэны у малаку хлеб, ячные крупы, гатаваные у малаку, цi што iншае; засохшую, баўтаючыюся скурку на кончыку языка, хай асьцярожна, каб не пакалечыць, абрэжэ малымi ножнiчкамi, ды язык i паднябеньне хай намажэ сьметанкай, цi нясоленым маслам, дык праз тры днi куры i выздаравеюць. А каб у будучым куры не хварэлi, трэба агледзiць тое мейсца дзе куры начуюць, цi нiма там дзе дзiрак, цi не падвевае iх, не капае на iх, калi яны у ночы сьпяць, бо куры страшэнна баяцца, калi на iх у ночы капае праз дзiркi у страсе i ад гэтага да iх прывязываюцца розные хваробы.

**Лiшнi.**

---

# Розные рады.

**Калі заорываць лубін?** У адным садзе у Нямеччыне агроднік засеяў у садзе лубін, каб падмацаваць дрэвы. Калі лубін красаваў, у сад гэты прыходзіло шмат людзей, а агроднік пытаўся у кожнага, калі найкарысьней для зямлі заараць лубін; найбольш казалі, што найкарысьней заорываць лубін, калі ён красуе, меней людзей казало, што найкарысьней, калі лубін перэкрасуе, а толькі колькі чэлавек было за тым, каб заараць, калі лубін ужо засыхае. Агроднік пастанавіў на сваю руку зрабіць пробу. Адвёў побоч тры шнуркі зямлі і на кожным шнурку заараў лубін а іншай парэ і усе тры засадзіў бульбай. С шнура заараннаго у часе красаваньня накапаў 2 пуры бульбы, — с шнура па перэкрасаваным лубіне накапаў 6 пуроў бульбы, — з заараннага шнура у восень $8^1/_2$ пуроў.

**Капусные чэрві** найлягчэй, як раюць нямецкіе газэты, выгубіць мурашкамі. Адзін нямецкі гаспадар пішэ аб гэтым вось што. Высокіе муравешнікі, якіх німала ў яловых і сасновых лясах, трэба згарнуць у мяшок, і прынёсшы у капусту, пасыпаць уздоўж град, або кучкамі паміж капусты.

Каб выгубіць усіх чарвей, трэба мурашак прынясьці, як толькі чэрві пакажуцца; тады мяшок муравешніку хапае на якіе 2 дзесяціны зямлі; калі чарвей дужа многа, трэба мурашак прынясьці больш. Мурашкі раззлуваные тым, што іх патурбавалі, кідаюцца на чарвей і мошак і душаць іх, а пасьля і самі прападаюць з голаду.

**Падсьцілка с торфу**, калі толькі торф падсцілаецца сухі— гэта найлепшая з усіх падсьцілак. Адзін фунт сухога торфу можэ увабраць у сябе дзесяць фунтоў навознай юшкі, а пры гэтым торф затрымлівае газы, якіе выдыхаюцца пры цэрэгніваньні саломы, а пры торфавай падсцілцы нічога не марнуецца. Нідаўна у Саксоніі зрабілі гэткую пробу: засадзілі морг ($^2/_3$ дзесяціны) зямлі угноенай саломістым гноем і морг, тарфяным; с саломістага гною накапалі 86 пуроў бульбы, а с тарфянога 118 пуроў. На другі год на гэтай зямлі быў пасеяны ячмень; з марга, дзе быў паложэны саломісты гной—намалацілі 82 пуды зерня, а на тарфяным, 124 пуды зерня. Пробы, зробленые у галічыне с тарфяным і саломістым гноем пад жыта, гэтак сама паказалі на карысць торфавай падсьцілкі: па саломістым гною намалацілі з марга жыта 63 пуды, а па торфавым—70 пудоў. Мокры торф псуе гной і дзеля гэтаго трэба торф толькі сухі падсьцілаць.

**Даеньне неспакойных кароу.** Неспакойных кароў дужа цяжка даіць. Іншые путаюць неспакойных кароў, але гэта, праўду кажучы, мала памагае, затое куды больш памагае, калі карові на крыжавіну палажыць змочэны у сцюдзёнай вадзе мяшок. Само сабой, што палажыўшы на крыжавіну мяшок, трэба сьцерагчыся, каб вада з яго не сьцекала ў дайніцу.

**Спосаб лячыць яшчур у кароў.** Адзін с польскіх гаспадароў, гады два таму, пісаў у польскіе сельска-гаспадарскіе газэты аб тым, як ён натрапіў на спосаб лячыць яшчур у кароў. Перэд пажарам у яго пахварэлі каровы на яшчур. У часе пажару—часць кароў не было куды дзець, дык іх заганялі у стайню. Тая часць кароў, што стаяла у стайні на конскім гнаі, дужа скора паздаравела, а другая і надта цяжка перэхварэла. Двом каровам пасьля гэтаго сумысля прышчапілі яшчур і адну паставілі на конскім гнаю у стайні, а другую, у кароўім хлеві; тая што стаяла у стайні дужа лёгка хварэла, а другая добра такі перэхварэла. Ён пішэ, што востры дух (амміяк), які зазвычай бывае у стайні лічыць яшчур. Варта спробаваць, можэ гэта і запраўду памагае.

**Каштаны на корм жывёлі** дужа карысна даваць, бо каштаны вельмі сытные, толькі каб каровы, коні і сьвіньні елі каштаны, трэба перш іх пазбавіць гарчыні. Робіцца гэта так сама, як і з насеньнем лубіну. Трэба насыпаць каштаноў у якую карзіну і затапіць у бягучай вадзе, за 2 — 3 дні ўжо у каштанах ня будзе ніякой гарчыні, іх ахвотне будзе есьці усякая жывёла. Скармліваць каштаны можна сырые, пасечэные, варэные і сушоные — меленые на муку. Каровам і коням, можна у дзень даваць да 8 фунтоў каштаноў, але высокацельным каровам лепей не даваць каштаноў. Малако ат кароў кормленых каштанамі тлустае і мае прыемны смак.

**Новы спосэб абіваньня галовак лёну.** У некаторых мейсцах Смаленскай губ. абіваюць галоўкі лёну так. Лён сьцелюць на таку шырокім кругам галоўкамі ў сярэдзіне, і качаюць пагалоўках цяжкі вал, або бочку с пад вады, ці чаго іншаго, насыпаную пяском. Праз бочку прапускаюць жалезную, ці дрэўляную вось, канцы восі устаўляюць у аглоблі, ззаду бочкі аглоблі збіваюцца папярэчным брусам. Бочка с пяском будзе важыць каля 15 пудоў. Такой простай машынай можна абіць у дзень лён з 2 дзесяцін. Хлопчык водзе каня кругом, а 2 — 3 бабы падносяць і выносяць лён, а абітые галоўкі згрэбаюцца да сярэдзіны у кучу.

---



Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вльня.

Да рэдакціі зьвертаюцца гаспадары, пытаючыся, дзе яны могуць купіць вікі, канюшыны, ауса, ячменю. Каб памагчы ў гэтай справе нашым падпішчыкам і чытачом, мы гэту вясну будзем дарма друкаваць абвесткі гаспадароу аб насеньнях, такім спосабам можна прадаць выгадней без фактарства.

# ПРАДАЕЦЦА:

= Ячмень „Ганна“ 300 пуд. па 1 р. 50 к., буракі „Ідэал“ 40 пуд. па 50 кап., гарох зялёны 30 п. па 2 р. Почта Кейданы Ков. г. маен. Поневежы.

= Гарох — пелюшка, гарох шэры, ячмень мархійскі, авес гівтлінг. п. Новосвенцяны м. Сыляудышкі.

= Прадаецца збожэ. ст. Бэйсагола Л.-Р. ж. д. пробная станція.

= Дв. Рось гр. Браніцкаго, г. Волковыск Гродн. г. — авес датскі, Лігово, чорны Велікан, жыта мужыцкае Собешынскае, пшаніца Высоколітоуская, гарох зялены, пялюшка, тымафейка.

= м. Наруны, почта Купішкі Ковен. г. жыта ракішскае, канюшына тутэйшая, аднапакосная, цімафееука, авес лігово.

= гр. Касаковскі, почта Жэймы Ковен. г. Ячмень Ганна 1000 пуд. па 1 р. 40 к. авес Лігово 1500 п. па 1 р. 30 к.

= С. Лэнскі м. Подлясь г. Поневеж Ков. г. ярая пшаніца 700 п. па 1 р. 75 к.

= Л. Стравінскі м. Міровшчызна, почта Дятлово Грод. г.—сіні лубін, ячмень „Ганна“, Сарадэля.

= м. Нецеч Гарденіна, почта Дятлово Грод. г. ячмень 6 — радны, цімафееука, канюшына чырвоная, пшаніца „Улька“, гарох „Конкордія“.

= почта Сморгонь, м. Ціціна Мейштовіч жыта святоянское, бульба—царская карона—раньняя.

= почта Немэнчын Віл. г. м. Подкжыжын Ю. Свяцкі жыта пэткускае, ячмень „Ганна“, буракі экендорфскіе кармовые.

= почта Радашковічы Віл. г. м. Гранічы Вл. Свіда—ячмень „Ганна“.

= почта Краснае Віл. г. Вл. Свіда лубінъ сіні, авес рыхлік собещынскі, пшаніца азімка.

## Трэба купіць:

= Канюшыны чырвонай п. Радашковічы Віл. г. Ст. Свіда.

= Віка Мінск Багадзельная 38 Лэнскаму